## Кот

Мы ката паспрабавалі
Пракаціць на самазвале.
Кот катацца не любіў,
Грузавік перакуліў.

## Самалёт

Самалёт змайструем самі,
Паляцім па-над лясамі,
Паляцім па-над лясамі,
Памахаем ручкай маме!

## Зайка

Зайку кінулі на лаўку
І забыліся у парку.
Зьлезьці долу ён ня мог
І пад дожджыкам прамок.

## Мішка

Мішку скінулі з канапы,
Мішку адарвалі лапу.
Я яго адрамантую
І цукеркай пачастую.

## Бычок

Ідзе бычок, хістаецца,
Бядуе: «Ай-яй-я!
Вось дошчачка сканчаецца, -
Звалюся зараз я!»

## Слон

Ноч прыйшла, заснуў бычок,
Павярнуўся на бачок.
Мішка сон салодкі сьніць,
Толькі слон яшчэ ня сьпіць.
Ён хітае галавой:
"Добрай ночы, дружа мой!"



## Караблік

Матросская шапка,
Вяроўка ў руцэ,
Цягну я караблік
Па хуткай рацэ.

Бягуць жабяняты
За чоўнам у след
І хорам крычаць:
- Пракаці і мяне!

## Конік

Коніка свайго люблю я,
Грыўку прычашу даўгую,
Шчоткай прыгладжу хвосьцік,
Паскачу да мамы ў госьці.

## Таня.

Наша Таня гучна плача,
Упусьціла ў рэчку мячык.
Ціха, Танечка, ня плач,
Не патоне ў рэчцы мяч.

## Казьляня

Гадаванец мой ўлюбёны -
Маладое казьляня,
Я яго у сад зялёны
Пасьвіцца ваджу штодня.
Калі раптам заблукае,
Я заўсёды адшукаю.



*«Читаем детям»*
**Агния Барто**
**ИГРУШКИ**
**Художник Пыльцын М.**
Подписано в печать 27.01.2007 г.
Формат 60 х 84/16, офсет №1
Тираж 5000 экз. Заказ №110
ISBN 978-5-378-00206-1

*344019, Ростов-на-Дону, «Издательский дом «Проф-Пресс», а/я 5782, редакция.*
Общероссийский классификатор продукции
ОК-005-93, том 2; 953000 – книги и брошюры.
Соответствует Сан ПиН 2.4.7.960-00 «Гигиенические требования
к изданиям книжным и журнальным для детей и подростков».
Торговое представительство:
г. Ростов-на-Дону: (863) 230-40-21, факс 230-40-23. E-mail: book@prof-press.ru
Украина, Донецк: (0622) 58-17-97 E-mail: ppress@skif.net
Украина, Киев: (044) 464-49-46. E-mail: kredok@i.com.ua
Отпечатано в ООО «Издательский дом «Проф-Пресс»,
344020, Ростов-на-Дону, Механизаторов, 5-9; тел.: (863) 230-42-02.

by Urus Hyby

пераклад: julcik, kotka, Сокалаў-Воюш




